**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№33(645)**
**16 жніўня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





Другі год запар на аграсядзібе Васіля Штэрна ў Поўсвіжы (Лепельскі р-н) праводзіцца Свята мастацтва і рамёстваў. Чынны ўдзел у мерапрыемстве прынялі мастакі і разбяры з Глыбоцкага і Пастаўскага Дома рамёстваў. На здымку: Віктар Дудкевіч, Глыбокае і Сяргей Шчэрба, Паставы.

## Глыбоцкі РАУС паведамляе:

*За сем месяцаў 2012 года:*

**По вобласці.**

У адносінах да грамадзян складзена 846 адміністрацыйных пратаколаў па арт. 12.43 КоАП Рэспублікі Беларусь (Выраб ці набыццё моцных алкагольных напояў (самагонкі), паўфабрыкатаў (брагі) для вырабу, захоўванне апаратаў для іх вырабу) і за парушэнне Дэкрэту №11 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 09.09.2005 года «Пра ўдасканаленне дзяржаўнага рэгулявання вытворчасці, звароту і рэкламы піва, алкагольнай нехарчовай спіртазмяшчальнай прадукцыі і нехарчовага этылавага спірту», канфіскавана 131709 літраў фальсіфікаваных спіртных напояў і самагоннай брагі, знішчана 3 міні-заводы, канфіскавана 78 самагонных апаратаў .

**Па Глыбоцкім раёне.**

У адносінах грамадзян складзена 29 адміністрацыйных пратаколаў, канфіскавана 3364 літры фальсіфікаваных спіртных напояў і самагоннай брагі і 7 самагонных апаратаў. Восем чалавек загінула ад атручвання этылавым алкаголем, 6 мужчын і 2 жанчыны, з іх пяць жыхароў Падсвільскага пасялковага Савета.

***А.І. Гігола,***
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

## На развіццё малочнай галіны Беларусі да 2015 года будзе выдзелена больш за 37 трлн. рублёў

**На развіццё малочнай галіны Беларусі да 2015 года будзе выдзелена больш за 37 трлн. рублёў у цэнах 2009 года. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў ад 2 жніўня № 725, якое ўносіць некаторыя змены ў рэспубліканскую праграму развіцця малочнай галіны ў 2010-2015 гадах, паведаміла прэс-служба ўрада.**

Згодна з гэтымі зменамі, на будаўніцтва малочнатаварных ферм (МТФ) плануецца накіраваць больш за 22,4 трлн. рублёў, на рэканструкцыю і мадэрнізацыю — 9,5 трлн., на будаўніцтва і рэканструкцыю памяшканняў ферм для ўтрымання маладняку буйной рагатай жывёлы — крыху больш за 3,5 трлн., на будаўніцтва, рэканструкцыю і мадэрнізацыю малакаперапрацоўчых арганізацый выдзеляць прыкладна 1,6 трлн. рублёў у цэнах 2009 года.

Аб'ёмы будаўніцтва, рэканструкцыі і мадэрнізацыі МТФ, памяшканняў для ўтрымання маладняку буйной рагатай жывёлы ў сельскагаспадарчых і іншых арганізацыях (іх філіялах) і мадэрнізацыі малакаперапрацоўчых арганізацый будуць удакладняцца ў адпаведнасці з аб'ёмамі фінансавых сродкаў, вызначаных на гэтыя мэты ў чарговым фінансавым годзе.

Пастановай прадугледжана, што ў якасці крыніцаў фінансавання гэтай праграмы будуць выкарыстоўвацца ўласныя сродкі арганізацый, якія займаюцца рэалізацыяй яе мерапрыемстваў. Плануецца прыцягненне сродкаў інвестараў, а таксама крэдытных рэсурсаў банкаў, у тым ліку замежных крэдытных ліній.

*Марына Носава, БелаПАН.*

## У «Беларусбанку» будуць адкрыты спецыяльныя выбарчыя рахункі кандыдатаў у дэпутаты

**Спецыяльныя выбарчыя рахункі кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу будуць адкрыты ў ААТ «ААБ «Беларусбанк», паведамляе прэс-служба банка.**

Праца праводзіцца ў адпаведнасці з пастановай Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў ад 19 чэрвеня 2012 года № 31 «Аб зацвярджэнні палажэння аб выбарчых фондах кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага склікання».

Адкрыццё рахункаў і збор грашовых сродкаў ажыццяўляюцца з 15 жніўня па 21 верасня 2012 года.

«Беларусбанк» абяцае забяспечыць «належную арганізацыю працы па працэдуры адкрыцця спецыяльных выбарчых рахункаў, прыёме плацяжоў, абслугоўванні аперацый». Для інфармавання плацельшчыкаў на інтэрнэт-рэсурсах і ва ўсіх структурных падраздзяленнях банка будуць своечасова размешчаны пералік структурных падраздзяленняў, якія ажыццяўляюць адкрыццё спецыяльных выбарчых рахункаў кандыдатаў у дэпутаты, і рэквізіты адкрытых банкам рахункаў.

*А. Арэшка, БелаПАН*

Браслаўскі раён

# Застава – другі дом

■ Кастусь Александровіч

**За савецкім часам у Беларусі існавала толькі адна абуладкаваная дзяржаўная граніца СССР з Польшчай працягласцю амаль 400 кіламетраў.**

З набыццём суверэнітэту такіх клопатаў па ахове знешніх рубяжоў дабавілася, паколькі толькі на прыбалтыйскім накірунку мяжы з Літвой і Латвіяй неабходна было забяспечыць кантроль яшчэ каля 720 км. З дапамогай Расіі сёлета гэта праца нарэшце завяршылася, а абноўлены пагранпост "Урбаны" ў Браслаўскім раёне стаў апошнім і 16-м па ліку аб'ектам сумеснай пагранзоны дзвюх краін-суседак. Яго прывабны двухпавярховы будынак, як і папярэднія, быў узведзены за кошт сродкаў адпаведнай праграмы Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі. Як і на іншых, тут пастараліся стварыць усе неабходныя ўмовы для нясення службы і паўсядзённага жыцця. Комплекс будынкаў у азёрным краі абышоўся ў 62,5 млн. расійскіх рублёў. На дзяржаўнай граніцы на Браслаўшчыне былі пабудаваны акрамя адміністрацыйнага будынка яшчэ і дом для асабістага складу пагранпаста з двух і трохпакаёвымі кватэрамі і інтэрнантскімі пакоямі для воінаў у зялёных фуражках. Як і на іншых аб'ектах, яго дзейнасць будзе цалкам аўтаномнай, паколькі тут сталі дзейнічаць яшчэ кацельня, пункт абслугоўвання і рамонту тэхнікі і самі боксы для пагранічных машын. Пост "Урбаны" зроблены ў інтарэсах людзей, якія будуць надзейна ахоўваць дзяржаўную граніцу днём і ноччу.




Верхнядзвінскі раён

# Стаўка на бабуліны рэцэпты

■ Станіслаў Раманчук

**Ва ўмовах абвастрэння канкурэнцыі прыходзіцца цяпер працаваць большасці вытворцаў, што адчулі на сабе і работнікі Верхнядзвінскага хлебазавода.**

Аднак пасля праведзенага тэхнічнага пераўзбраення ім удаецца штомесяц да 20 тон свайго выпякаемага хлеба прадаваць нават у магазінах беларускай сталіцы. Мінчане ўпадабалі мясцовыя цёмныя гатункі хлеба "Галубаўскі" і "Асвейскі святочны", якія сталі выпрацоўваць па звычайных рэцэптах, якімі карысталіся ў мінулым нашы бабулі. Таксама акрамя пшанічных і жытнёвых хлябоў ёсць попыт на мясцовую прадукцыю, булачкі, розныя віды кандытарскіх вырабаў, пячэнне "Мучная кветачка" і ў жыхароў суседняй Пскоўскай вобласці Расіі, хоць там якасць хлебабулачных вырабаў прыкметна ўзрасла і вытрымаць канкурэнцыю становіцца больш складана. Аднак дзякуючы наяўнасці ў асартыменце больш 30 найменняў галоўнага прадукта харчавання завод застаецца на плыву. Пасля газіфікацыі прадпрыемства на ім з'явіліся новыя вытворчыя лініі і, што асабліва важна, сучасныя энергаэфектыўныя аўтаматычныя печы. Аднак на гэтым мясцовыя хлебапёкі не спыніліся і збіраюцца неўзабаве запусціць тут і яшчэ адну новую лінію па выпечцы да 100 тон розных сушак у месяц. У хлебазавода ёсць сваё ягаднае поле плошчай 40 гектараў, на якім сёлета атрымалі багаты ўраджай вітамінаў. А вось вытворчасць пладовых він па палепшанай тэхналогіі натуральнага бражэння тут скарацілася ў два разы. У бліжэйшай перспектыве ад выпуску віна на заводзе поўнасцю адмовяцца і пяройдуць на выпуск сокаў для прамысловых патрэб.

Полацкі раён

# Над возерам ... лыжнікі

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам чым толькі не здзіўляюць усю вобласць і не толькі жыхары Полацкага раёна.**

У гэтым рэгіёне даўно дзейнічае ў горадзе Наваполацку мацнейшая ў Беларусі школа воднальжнага спорту. Адзін з яе выхаванцаў, член нацыянальнай зборнай і майстар спорту міжнароднага класа Герман Белякоў прыдумаў арыгінальную ідэю стварыць на Полаччыне першую ў краіне лінейную канатную трасу для катання на водных лыжах. Падобныя аб'екты ён асабіста бачыў у розных еўрапейскіх і іншых дзяржавах, дзе яны карыстаюцца папулярнасцю ў адпачываючых. Добрае пачынанне падтрымала і мясцовае кіраўніцтва і на маляўнічым і прыгожым возеры ля вёскі Гваздова ў сярэдзіне лета нарэшце з'явіўся першы айчынны падобны водны трэнажор. У дзень адкрыцця трасы ўсіх жадаючых атрымаць неверагодную асалоду ад перамяшчэння па воднай гладзі каталі на ёй бясплатна. А такіх смелых людзей у той дзень аказалася нямала, паколькі адкрыццё воднаканатнай дарогі сумясцілі з двухдзённым раённым турыстычным злётам. На адкрыццё гэтага ўнікальнага пакуль у Беларусі аб'екта запрасілі мацнейшых мясцовых воднальжнікаў, а таксама майстроў гэтага віду спорту з беларускай сталіцы і з Санкт-Пецярбурга. Атрымалася сапраўднае свята, паколькі ў спякоту ўсіх цягне да вады, тут арганізавалі вызны гандаль, розныя конкурсы і забаўляльную праграму, якая прадоўжылася вечарам у адным з наваполацкіх кінатэатраў "Мінск", дзе адбылася прэзентацыя фільма пра гэты від актыўнага адпачынку і спорту на вадзе.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 16.08.12 | | | | Пятніца 17.08.12 | | | | Субота 18.08.12 | | | | Нядзеля 19.08.12 | | | | Пнд.20.08.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +16 | +20 | +17 | +15 | +16 | +20 | +16 | +15 | +16 | +19 | +16 | +13 | +16 | +21 | +16 | +14 | +15 | +19 |
| Ціск | 744 | 744 | 744 | 745 | 745 | 745 | 744 | 745 | 745 | 746 | 747 | 748 | 749 | 750 | 749 | 749 | 748 | 745 | 743 |
| Вільготнасць | 98 | 99 | 79 | 90 | 99 | 96 | 75 | 94 | 99 | 94 | 77 | 92 | 99 | 93 | 59 | 85 | 98 | 100 | 94 |
| Вецер м/сек | 2 С | 4 С-В | 2 С | 2 С-В | 2 С | 3 С | 3 З | 2 С-З | 2 С | 4 С | 3 С | 3 С | 2 С-З | 3 С-З | 4 С-З | 2 Ю-З | 3 З | 3 Ю-З | 4 Ю-З |

# Лічба нумара

**4700** – столькі медалёў рознай вартасці, па дадзеных СМІ, было ўручана ў Лондане пераможцам і прызёрам прайшоўшых XXX летніх Алімпійскіх гульняў у індывідуальных і камандных відах спорту. Да гэтых самых маштабных стартаў чатырохгоддзя была прыцягнута ўвага ўсяго чалавецтва на працягу паўмесяца, а каб заваяваць жаданы кругляш вагой болей 400 грам, разгорталася неверагодная па накалу барацьба. Аднак спецыялістам было загадзя зразумела, што пастаўленая перад атлетамі Беларусі задача па заваяванню ў брытанскай сталіцы 25 медалёў, з іх 5 залатых – нерэальная і абсурдная.

Справа ў тым, што спорт высокіх дасягненняў – гэта найперш дакладнейшы разлік падрыхтоўкі пры наяўнасці адпаведнай базы, адораных спартсменаў, вопытнейшых трэнераў і , канешне ж, укладанне вялізных грошай. Напэўна, гэта не разумеў галоўны беларускі фізкультурнік і па сумяшчэнню яшчэ і глава НАК РБ А. Лукашэнка, калі 9 красавіка 2010 года публічна агучыў такія паказчыкі. Ён, магчыма, збіраўся пабываць на Алімпіядзе, як чыста спартыўны функцыянер, разам з трэцім пазашлюбным сынам, але англічане адмовілі ў акрэдытацыі, а аргкамітэт Гульняў падтрымаў у гэтым палітызаваным пытанні і сам МАК.

У выніку выйшла , на жаль, кепска і правальна, у большасці дысцыплін, асабліва ў першы тыдзень спаборніцтваў, беларускія алімпійцы былі статыстамі. Дайшло да таго, што за першыя 5 дзён Алімпіяды ў беларусаў лепшым дасягненнем было адно 5-е месца В. Чайкі ў стральбе з пнеўматычнага пісталета, калі медалі заваявалі прадстаўнікі 37 краін свету. Асабліва крыўдна было тое, што тым часам іншыя зборныя з постсавецкіх краін раз за разам падымаліся на п'едэстал гонару. У чым жа прычыны такіх няўдалых выступленняў, на падрыхтоўку да якіх было патрачана толькі па лініі Мінспорту болей 120 мільярдаў рублёў ?

Праблема такіх няўдалых выступленняў відавочная. Мы, трэба шчыра прызнаць, даволі бедная краіна з адным самых нізкіх у Еўропе ўзроўнем жыцця. Таму фінансаванне алімпійскіх відаў спорту было мізэрным і недастатковым. Дастаткова сказаць, што толькі айчынная федэрацыя веславання, адна з самых медаляёмкіх дагэтуль атрымала на 45 % меней грошай на сваю дзейнасць, у параўнанні з папярэднім алімпійскім цыклам падрыхтоўкі да Гульняў у Пекіне. У выніку беларускія акадэмічныя весляры не дабралі 3 ліцэнзіі на пападанне ў Лондан з 5 запланаваных, а "жалезны" медаліст, экіпаж жаночай двойкі Н. Гелах і Ю. Бічык атрымаў новую патрэбную лодку толькі за дзень да рашаючага адборачнага старту і таму прайграў. Мы ж выступалі толькі ў 2-х класах веславання, у якіх планавалася, дрэнна складваліся справы і ў байдарачнікаў.

І ў іншых відах спорту былі падобныя ўпушчэнні. Таму не дзіўна, што не змаглі прабіцца на Алімпіяду ўвогуле ў 2-х відах – сінхронным плаванні і ў таэквандо, ва ўсіх гульнявых відах спорту, за выключэннем футбола. Але ж галоўны трэнер футбалістаў Г. Кандрацьеў з сумам прызнае, што гэта самая папулярнай гульня ў свеце ў Беларусі не развіваецца, гэта не абласканы ўладай хакей. На самой справе ў развіцці ўвогуле спорту ў краіне цяпер відавочны крок назад. Да прыкладу, больш паловы федэрацый і нацыянальных зборных правалілі свае планы па заваяванні алімпійскіх ліцэнзій ( у Пекіне было наадварот амаль 200 ліцэнзій і акрамя 19 медалёў яшчэ 40 беларускіх атлетаў заваёўвалі заліковыя ачкі і займалі 4-8 месцы).

Мы ж перад Алімпіядай страцілі з-за траўм 5 моцных спартсменаў, якія рэальна маглі прэтэндаваць на медалі. Аднак аб гэтым быццам не ведаў кіраўнік дзяржавы, калі на ўрачыстых провадах заявіў, што галоўнае для айчынных алімпійцаў будзе ў Лондане не ўдзел, а перамога. Шкада, а было вельмі горка, калі выбывалі з барацьбы на ранніх стадыях адзін за другім нашы баксёры, коннікі, плыўцы, веласіпедысты, тэнісісты, гімнасты, барцы, а добрыя паказчыкі апошніх гадоў у алімпійскіх дысцыпінах не пацвярджаліся.

Цікава, як будзе цяпер далей. У грамадскай свядомасці заклалася, што беларусы не такія ўжо моцныя ў спорце, як лічылася раней. А вось будзе дрэнна, калі пасля няўдач большасць лепшых беларускіх атлетаў пазбавяць прэзідэнцкіх стыпендый. Прэміраванне чэмпіёнаў кватэрамі, як пасля Пекіна, адмянілі яшчэ раней. Зараз трэба ўсё дэталёва прааналізаваць і прызнаць, што і ў спорце трэба жыць па сродках і ставіць рэальныя, а не завоблачныя задачы, падтрымліваючы таленавітых маладых спартсменаў і нарэшце дзяцячых трэнераў. Інакш і праз 4 гады на Алімпіядзе-2016 у Рыа-дэ-Жанейра, а перад гэтым і на зімовай Алімпіядзе-2014 ў Сочы беларусы зноў будуць далёка да пападання на п'едэстал гонару, а мы будзем радавацца толькі за майстэрства атлетаў з чужых краін.

## Дзень за днём

**Для айчыннай эканомікі пасля ўступлення асноўнага гандлёвага партнёра – Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю наступілі новыя выпрабаванні. Атрымаць сёлета 9 млн. тон зерня – такую задачу паставіў А. Лукашэнка, якому аргкамітэт прайшоўшай у Лондане Алімпіяды-2012 адмовіў у акрэдытацыі ў брытанскай сталіцы. Жаніцца і разводзіцца беларусам стала прасцей пасля ўступлення ў сілу абноўленага Кодэкса аб шлюбу і сям'і РБ. У рамках аптымізацыі навучальнага працэсу кіраўніцтва РБ плануе павялічыць працягласць вытворчай практыкі для студэнтаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Міжнароднае рэйтынгавае агентства Moody's змяніла прагноз па рэйтынгу ФРГ, Галандыі і Люксембурга са стабільнага на негатыўны, але іх эканомікі без змен.

Венесуэла. Хворы на рак прэзідэнт Уга Чавес заявіў аб выхадзе сваёй краіны са складу Межамерыканскага суда па правах чалавека, які быццам крыўдзіць венесуэльскі народ.

**Афганістан.** У правінцыі Гор у выніку выбуху міны, закладзенай на ўзбочыне дарогі баевікамі руху "Талібан", загінулі адразу 7 дзяцей ва ўзросце ад 10 да 14 гадоў.

**Кітай.** Колькасць ахвяр моцных ліўняў на тэрыторыі 22 правінцый краіны перавысіла 110 чалавек, прапала без звестак больш паўсотні, стыхія знішчыла 54 тысячы дамоў кітайцаў.

**Расія.** У Новасібірскай вобласці з-за няспраўнасці тармазоў загарэўся і быў знішчаны агнём эшалон з 10 вагонамі боепрыпасаў, якія везлі на ўтылізацыю, абышлося без ахвяр.

**Таджыкістан.** У горным Бадахшане сур'ёзна абвастрылася абстаноўка пасля забойства генерала дзяржбяспекі А. Назарава і ўводу ўрадавых войск, былі забіты сотні людзей.

**Літва.** Літоўскі прэм'ер А. Кубілюс абвінаваціў Еўрасаюз у недастатковым фінансаванні праекта закрыцця Ігналінскай АЭС і пастаўках непадыходзячых для станцыі кантэйнераў.

**КНДР.** Як паведамілі шэраг СМІ свету, новы лідар краіны 30-гадовы Кім Чэн Ын быццам сакрэтна для карэйцаў ажаніўся на былой палюбоўніцы, прыгожай спявачцы Лі Соль Ю.

**Іспанія.** На барацьбу з моцнымі ляснымі пажарамі кінулі тысячы сваіх і пажарных суседняй Францыі, стыхія дабралася ў невыносную спёку і да курортаў Харватыі.

**Ватыкан.** Арыштаваны за быццам арганізацыю ўцечкі ўнутраных да— кументаў Ватыкана камердзінер Паола Габрыэле папрасіў прабачэння ў Папы Рымскага.

**Японія.** Дзясяткі чалавек загінулі з-за анамальнай гарачыні пад 38 градусаў цяпла, у бальніцы толькі за тыдзень змясцілі каля 6 тысяч японцаў, найбольш пажылых людзей.

**Расія.** На аўтазаводзе ў Тальяці пачалі выпускаць новыя легкавыя аўтамабілі "Лада Ларгус" на платформе "Renault Loqan – Sandero" трох варыянтаў коштам ад 10 тыс. USD.

**Англія.** Амаль 110 спартсменаў свету не прайшлі допінг-кантроль і не былі дапушчаны да ўдзелу ў чарговай Алімпіядзе-2012 у Лондане, іх імёны і краіны МАК не стаў называць.

**Польшча.** Пасля прэм'ернага паказу на фестывалі ў Каннах у Варшаве прайшоў першы закрыты паказ новага мастацкага фільма "Жыве Беларусь!" пра рэальныя падзеі ў нас.

**Ізраіль.** Мэрыя шостага па велічыні горада краіны Ашдод з насельніцтвам 210 тысяч чалавек прысвоіла адной з гарадскіх плошчаў імя беларускага класіка Янкі Купалы.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Мясцовая АЭС з аб'ёмам расійскіх інвестыцый 10 млрд. $ будзе падобнай на Балтыйскую АЭС, хоць у расіян кошт аб'екта разам з інфаструктурай складае 6,23 млрд.

**Мінск.** Пасля запуску ад 3 да 6 месяцаў прадоўжацца лётныя выпрабаванні беларускага касмічнага спадарожніка вагой 400 кг, апаратуру якога вучоныя стварылі за 2 гады.

**Магілёў.** Кіраўніцтва вобласці вырашыла, што ў магазіны рэгіёна больш не будуць пастаўляцца танныя "сацыяльныя" малочныя прадукты з нізкай тлустасцю, без дабавак.

**Брэст.** Да радасці студэнтаў мясцовага дзяржуніверсітэта імя А. Пушкіна да новага навучальнага года рыхтуюць тут да здачы новы студэнцкі інтэрнат і яшчэ 2 – у Мінску.

**Мінск.** Кіраўнік вобласці Барыс Батура перанёс на канец кастрычніка здачу пасля рэканструкцыі 324 ферм, бо ў ліпені не асвоілі яшчэ і палову выдзеленых на іх сродкаў.

**Бабруйск.** З арандуемага пакоя дырэкцыя завода трактарных дэталяў і агрэгатаў прымусова з дапамогай 2-х міліцыянераў выселіла офіс дзеючага Свабоднага прафсаюза.

**Ліда.** Новы завод гарачага ацынкавання буйнагабарытных металаканструкцый паблізу райцэнтра адгрузіў першую партыю вырабаў на экспарт фірме з Санкт-Пецербурга.

**Горкі.** Арганізатары "Дажынак-2012" паабяцалі ўпершыню арганізаваць для яго ўдзельнікаў катанне на паветраных шарах, вулічны рэстаран на 12 тысяч пасадачных месц

**Быхаў.** Работнікам мясцовага кансервавасушыльнага завода прыйшлося ўвесці начную ахову сваіх пасеваў гароху на плошчы 600 гектараў, на якія сталі набягаць дзікія кабаны.

**Мінск.** На трохзменны рэжым працы перайшлі будаўнікі, каб паспець здаць яшчэ 3 новыя станцыі метро "Грушаўка", "Міхалава" і "Пятроўшчына" да пробнага іх пуску ў верасні.

**Бабруйск.** Услед за адзеннем для школьнікаў на мясцовым ААТ "Славянка" асвоілі пашыў да 4 тысяч штук у месяц мужчынскіх касцюмаў, іх стала купляць нават Масква.

**Ліда.** Услед за палацапаркавым ансамблем у Нясвіжы вырашана да канца 2014 года завяршыць рэстаўрацыю Лідскага замка, на заканчэнне работ выдзеляць 13 млрд. рублёў.

**Маларыта.** Пасля паўстагоддзя пошукаў вернікі з вёскі Лукава знайшлі на дне мясцовага возера царкоўны звон, схаваны ў вадзе ў час камуністычных ганенняў веры.

**Гомель.** Былы малады ўрач-псіхіятр Яўген Дзедушкін пачаў дабівацца кампенсацыі за незаконнае адбыццё 3 гадоў у зняволенні за быццам падпал гаражоў, які ён не рабіў.

**Асіповічы.** Мясцовая станцыя РТПС праз год стане першай у Беларусі з існуючых 42, дзе будзе адключана лічбавае тэлебачанне, людзям трэба купіць новы тэлевізар ці прыстаўку.

# З 11 жніўня ў Беларусі павышаны цэны на хлеб, малако, мяса куранят



■ Бізнес-Магілёў

**Гранічныя максімальныя адпускныя цэны на нізкатлустыя віды малочных прадуктаў у Беларусі павышаюцца ў жніўні на 35%, а ў верасні на 4%.**

Цэны на хлеб, батоны і мяса куранят таксама павысяцца ў жніўні - на 10%. Адпаведная пастанова Мінэканомікі ад 31 ліпеня 2012 № 68 апублікавана на афіцыйным сайце міністэрства. У каментары да пастановы гаворыцца, што вытворчасць малака невысокай тлустасці і малочных прадуктаў без дабавак у апошні час практычна спынілася ў сувязі з іх стратнасцю. Прынятыя меры закліканы прастымуляваць вытворцаў павялічыць выпуск такіх прадуктаў.

Павелічэнне лімітавых максімальных адпускных цэнаў на нізкатлустыя віды малочных прадуктаў тычыцца:

- Малака і кефіру тлустасцю да 3,5%;
- Смятаны тлустасцю да 25%;
- Тварагу тлустасцю да 9% без смакавых дабавак і напаўняльнікаў.

Так, напрыклад, лімітавая максімальная адпускная цана на літр малака тлустасцю 1,5% у поліэтыленавым пакеце ў жніўні будзе падвышаная з 1415 да 1910 рублёў. Гэта значыць, што вытворцы змогуць падняць адпускную цану на свой тавар да гэтай мяжы пры продажы гандлёвым арганізацыям. У крамах 1,5% малако без дабавак будзе, адпаведна, даражэй. Пасля дадання да яго кошту гандлёвай надбаўкі (да 11%), ПДВ (10%), адзін літр 1,5%-нага малака ў поліэтыленавым пакеце абыдзецца беларусу максімум у 2330 рублёў

Акрамя таго, пастановай Мінэканомікі прадугледжаная магчымасць падвышэння на 4% у месяц арганізацыямі-вытворцамі ў жніўні і верасні бягучага года адпускных коштаў на высокатлустыя віды малака, кефіру, смятаны, тварагу, а таксама на дадзеныя малочныя прадукты з смакавымі дадаткамі і напаўняльнікамі. Новай пастановай малакаперапрацоўчым арганізацыям дадзена магчымасць павысіць цэны, каб кампенсаваць павелічэнне кошту малочнай сыравіны.

Таксама ў дакуменце сказана: з улікам росту закупачных цэн на збожжа ў жніўні на 10% павышаюцца гранічныя максімальныя адпускныя цэны на традыцыйныя віды без дадаткаў хлеба і батонаў, а таксама на мяса куранят-бройлераў.

Пастанова Мінэканомікі № 68 уступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання - з 11 жніўня 2012 года (афіцыйнае апублікаванне на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале Беларусі - 10 жніўня 2012 года).

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Толькі тром дэпутатам дзеючага складу ПП РБ – У. Андрэйчанку, Г. Грыцкевічу і А. Папкову "рэкамендавалі" зноў балатавацца ў вобласці ў новы склад парламента.

**Верхнядзвінск.** На мясцовым хлебазаводзе пачалі дэмантаж старой печы для запуску новай аўтаматызаванай лініі па выпуску розных мучных сушак да 100 тон у месяц.

**Глыбокае.** З-за старэння вясковага насельніцтва за апошніх 1,5 года ў раёне ў абарот гаспадарак уключылі амаль 430 гектараў невыкарыстоўваемых ужо людзьмі зямель.

**Орша.** У адроджанай новай вёсцы Хімы на беразе Дняпра акрамя пабудовы 15 новых катэджаў для маладых сем'яў пабудавалі новы дзіцячы сад-яслі на 25 месц для малышоў.

**Віцебск.** Двое афіцэраў абласной ДАІ падчас дзяжурства на праспекце Люднікава выратавалі жыццё мужчыны, які апынуўся за акном інтэрната на 6-м паверсе на карнізе.

**Полацк.** Праверка Дзяржкантролю выявіла, што ў мясцовым лягасе больш чым на 5 тысяч кубаметраў перавысілі ўстаноўленую квоту па высечцы лясных угоддзяў.

**Браслаў.** Праз 10 гадзін пошукаў і прачэсвання лесу 150 людзьмі ў малінніку на адлегласці 1 км ад хутара Каменка знайшлі вечарам прапаўшага 3-гадовага хлопчыка.

**Наваполацк.** Замест барацьбы на лонданскай Алімпіядзе-2012 віцэ-алімпійскі чэмпіён Вадзім Дзевятоўскі вырашыў пазмагацца ў гэтым годзе за мандат дэпутата ніжняй палаты парламента.

**Віцебск.** Як паведаміў пракурор вобласці Генадзь Дыско, толькі ў першым паўгоддзі прыйшлося дэпартыраваць альбо высласць з Рэспублікі Беларусь 140 мігрантаў, з іх 63 – пад канвоем.

**Копысь.** У гарпасёлку адкрылі сучасны двухпавярховы Цэнтр народнай творчасці і рамёстваў агульнай плошчай 1,5 тысячы квадратных метраў з салонам-магазінам, залай для выстаў.

**Паставы.** У дзіцячай бібліятэцы імя У. Дубоўкі прайшла прэзентацыя новага відэафільма "Кветка шчасця Купалы", знятага з дапамогай студыі Пастаўскага тэлебачання і чытачоў.

**Орша.** Агракамбінат "Юбілейны" давёў гандлёвы абарот сваіх фірменных мясных магазінаў да 7 мільярдаў рублёў у месяц, тут гадуюць на комплексе 33 тысячы мясных свіней.

**Віцебск.** У дзяржуніверсітэце імя П. Машэрава не хапіла абітурыентаў на бюджэтныя месцы па гісторыі, малы конкурс быў на замежныя мовы і на "вырабы з дрэва".

**Мёры.** У зоне адпачынку на беразе возера ў райцэнтры прайшоў міжнародны маладзёжны фестываль музыкі "BrasLove Open Air" з удзелам больш чым 40 дыджэяў з 5 краін Еўропы.

**Орша.** Гараддзел Следчага камітэта пачаў праверку па факту гібелі 30-гадовага хлопца, які загінуў пры разборы старой лазні па просьбе пенсіянера, купіўшага тут участак.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Пад коламі аўтамабіля загінула акальцованая птушка

MUSEUM SC.NAT.
1000 BRUSSELS
H–145605
INFORM

**Ул. Скрабатун**

– Валодзя, калі хочаш, прыедзь!– тэлефануе аўтару гэтых радкоў Кастусь Бахір. Мне тут птушку прывезлі, якую збіла машына каля Прыперна. І не простая птушка, а з кальцом. Значыць гэтая птушка недзе стаіць на ўліку.

Я праштудзіраваў інтэрнэт і, на мой погляд, гэтая птушка – сава вушастая.

– А што ты з ёй рабіць будзеш? Мо пудзіла?– пытаю.

– Яшчэ не ведаю.

– Дык патэлефануй у лясгас. Там у іх нейкі музей ёсць і пудзілы птушак там стаяць…

Сапраўды гэтая птушка, якая крыху большая за галуба, як паказваюць даведнікі з інтэрнэту, сава вушастая. Што яна рабіла на дарозе ля Прыперна? Можа лавіла мышэй уночы і выпадкова патрапіла пад колы аўтамабіля? Гэта ж трэба прыляцець з Бруселя і загінуць ля Прыперна!

## Рука з рукой

**Марыя Баравік,**
*г.п. Падсвілле.*

На вакзале, у народзе, зазваніў мой мабільны. Нейкі карэспандэнт запытаўся, як я думаю, чаму частка маладых людзей не імкнецца да законнага шлюбу, чаму сем'і, якія ўзніклі, развальваюцца.

Я адказала расплыўна, нецікава, неяк шаблонна – не была засяроджана на такім нечаканым пытанні. А тут званок з Вяльца ад знаёмай Ігнатаўны:

– Напішы пра майго брата і братоўку. У іх у жніўні залатое вяселле. У раёнку напішы.

– Мяне там не друкуюць.

– Ну, тады не ведаю… Хоць куды…

Але праз колькі дзён юбіляры дазналіся. Сціплыя людзі прасілі спыніць намер сястры: "Не любім мы гэтага… Што тут такога дзіўнага? Даў Бог, пражылі - во колькі і дзякуй."

Аднак, мне ўжо надышло паразважаць. Я згадала засмучанасць прыяцелькі, што сын не жэніцца: "Трудаголік, – кажа, – не дачакаюся ўнукаў. Праўда, "расслабляецца" з жанчынамі. Калі б атрымалася дзіця, ён бы, канечне, жаніўся. Ды што ж ты іх змусіш?"

… Не змусіш, але ці ж з гэтага трэба пачынаць жаніцьбу? Падумалася, ці ёсць у сённяшніх маладых людзей мара сумеснасці на ўсё жыццё, пачуццё вернасці, адказнасці пры ўзнікненні, яшчэ нават кахання. Ды ці ёсць уяўленне Яе Светласці Сям'і?

У нас, беларусаў, слова "каханне" паказвае пачуццёвую рамантычнасць, прыцягальнасць, захапленне паміж маладымі людзьмі двух полаў. Тут душа павінна нараджаць любоў, гледзячы на зоркі і заклікаць Бога на дапамогу. Бо любоў гэта не каханне, гэта значна большае, нешта мацнейшае, якое стварае сям'ю і вядзе потым ад першага вяселля да залатога і далей, калі Бог узнагародзіць.

Мне здаецца каханне сумленнай душы для таго і дадзенае чалавеку, каб усвядоміць нешта большае. І тады: ці затухнуць своечасова, ці распаліць любоў і гартаваць яе на працягу сумеснага жыцця, перамагаючы нейкія непаразуменні, цяжкасці, перашкоды…

Дык да гэтага малады чалавек павінны быць унутрана духоўна падрыхтаваны: ад пачатку з'яўлення пачуццяў уключыць розум свой у дзеянне, бліжэй пазнаць адзін другога – ці падыходзіце па характары, прывычках, светапоглядзе. Бо потым могуць праявіцца супярэчнасці, калі міне закаханасць. Псіхалагічная несумяшчальнасць. На мой погляд, іншай несумяшчальнасці не бывае, калі чалавек больш думае пра іншага, менш пра сябе. Трэба праявіць мудрасць. Часам, гэтая мудрасць прыходзіць да дзяцей ад мудрых, веруючых бацькоў – прыкладам. Ці праз царкву, касцёл. Жыццё ж разам да вяселля – развэшчанасць, якая не яднае. Яно апярэджвае падзеі, з'яўляецца жыццём без згоды несці груз, бо толькі шлюб (усвядомлены, здабыты з Боскай мудрасці) змяншае цяжкасці. Ды без іх жыцця не бывае.

Любоў, калі яна сапраўды прыйшла з душы адкрытай, сумленнай, чыстай, заўсёды будзе ўстойлівай, ахвярнай, без вымагальнасці. Усё астатняе – не любоў. І не выяўляе гатоўнасці да сямейнай адказнасці. Мне страшнавата слухаць, калі пасля забойства мужам жонкі, маці забітай кажа: "Она его безумно любила". Сапраўды вар'яцтва.

Глядзім на многія таленты ў культуры, на тых, кім масава захапляецца моладзь. "Тыя" якраз дэманструюць вольнасць, адмаўленне ад сямейнага сэнсу, паказваюць культ плоцкіх захапленняў: люблю, маўляў, жанчын, не крыўджу іх, нічога ім не абяцаю, і з усімі ў любові. Вось такое прыніжальнае выкарыстанне слова "любоў", для паказу сённяшняй радаснай асобы, нібы ў трывалым, прыстойным грамадстве. Шчасце часцей бачыцца ў матэрыяльнай раскошы, асалодзе, плоцкім задавальненні, у нейкім гулянні, бо такая прапаганда вачам змалку.

Ёсць маладыя людзі, якія не маюць сродкаў для будаўніцтва гнязда для сямейнай мары, хоць яны не супраць сям'і. Пра такіх кажуць: іх не абараняе дзяржава. Нехта разважае: была б душа побач…". А час бяжыць – не чакае, колькі чалавеку пашчасціць выйграць у лато. І людзі не рашаюцца рызыкнуць пад прымаўку:"З мілым і ў шалашы рай".

З трэцяга боку глядзіць малады чалавек на наша грэшнае жыццё і не бачыць адважнага, мужнага, адказнага спадарожніка, які б клікаў на сумесны шлях да любові. Бо любоў – Божая іскра душы, а не плоці.

І тут я хачу згадаць моцную асобу – свайго дарагога брата, які дажыў да залатога вяселля і ў апошнія дні невыказна пакутлівага і мужнага стану думаў пра сваю спадарожніцу, называючы яе найлепшай, раіў, як і дзе ёй трымацца. Думаў пра тое, каб у спраўнасці пакінуць дом, паспець даць парады сыну. Ён мужнеў любоўю да сям'і, да дзяцей і ўнукаў.

Дык навошта таіць узорны прыклад сямейнасці, пажыццёвай працы, у згодзе і ўзаемалюбові аж да залатога свята, Канстанціна Ігнатавіча і Тамары Анатольеўны Савёнкаў з вёскі Вялец Глыбоцкага раёна. Няхай галосна віншуе іх сястра Ларыса Ігнатаўна з гэтай светлай падзеяй прыстойнага жыцця. Ім пашанцавала адзін на аднаго. У адным напрамку – душа з душой, рука з рукой.

## У Беларусі павышаны акцызы на алкаголь і паліва

У Беларусі 1 жніўня павышаны стаўкі акцызаў на нафтапрадукты і алкагольныя напоі. Такое рашэнне ўтрымліваецца ва ўказе ад 31 ліпеня 2012 года № 349, апублікаваным на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Так, на 36,5% (да 37.280 рублёў за літр 100-працэнтнага спірту, які змяшчаецца ў гатовай прадукцыі) павялічаны акцызы на віны пладовыя мацаваныя марачныя, палепшанай якасці і спецыяльнай тэхналогіі, на 13,8% (да 3.520 рублёў на літр гатовай прадукцыі) — на слабаалкагольныя натуральныя напоі, на 4,4% (3.520) — на віны натуральныя, у тым ліку пеністыя і шампанскія, газаваныя і шыпучыя, на 3,5% (да 580 рублёў) — на віны фруктова-ягадныя натуральныя, сідры фруктова-ягадныя.

Згодна з дакументам на 10% павышаны акцызы на аўтамабільныя бензіны і дызельнае паліва. У прыватнасці, стаўка акцыза на бензін з актанавым чыслом 95 і вышэй складае 1 млн. 26 тыс. рублёў за тону, на бензін з актанавым чыслом ад 91 да 95 — 1 млн. 286 тыс. 690 рублёў, з актанавым чыслом да 91 — 1 млн. 459 тыс. 220 рублёў. Стаўка акцыза на дызельнае паліва ўстаноўлена на ўзроўні 826 тыс. 540 рублёў. Пры гэтым устаноўлена нулявая стаўка акцызаў для дызельнага паліва для вытворчасці біядызельнага паліва.

Гэтыя стаўкі дзейнічаюць да 31 снежня 2012 года.

*Марына Носава, БелаПАН*

## Міністэрства аховы здароўя мае намер вырашыць праблему дэфіцыту кадраў у паліклініках Беларусі

**Міністэрства аховы здароўя мае намер вырашыць праблему дэфіцыту кадраў у беларускіх паліклініках. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення кадравай палітыкі ўстаноў адукацыі Міністэрства аховы здароўя Сяргей Сычык 13 жніўня на семінары ў Мінску.**

Паводле яго слоў, зараз у сталіцы ўкамплектаванасць паліклінік кадрамі складае ад 70%, у рэгіёнах — ад 60%.

Як заявіў Сычык, вырашыць праблему мяркуецца з дапамогай комплексу мер. Перш за ўсё, на працягу апошніх гадоў павялічваецца выпуск спецыялістаў з медыцынскіх ВНУ. Калі летась ён склаў 1,8 тыс. чалавек, то сёлета — 2,5 тыс. З гэтага года плануецца таксама абавязаць маладых спецыялістаў працаваць у паліклініцы, перш чым яны змогуць займаць пасады вузкіх спецыялістаў у іншых установах аховы здароўя.

Акрамя таго, з гэтага года ў сярэдніх спецыяльных навучальных установах пачнецца падрыхтоўка па спецыяльнасці «памочнік урача». Такі спецыяліст у паліклініцы забірае на сябе да 40% функцый участковага ўрача. Дагэтуль такую кваліфікацыю маглі атрымаць спецыялісты з фельчарскай або сястрынскай адукацыяй з пэўным стажам працы на базе паслядыпломнай адукацыі.

Як адзначыў Сычык, апошнімі гадамі ў Беларусі прыняты меры па вырашэнні праблемы дэфіцыту ў сістэме аховы здароўя вузкіх спецыялістаў. Зараз паказчык камплектавання ўстаноў аховы здароўя вузкімі спецыялістамі дасягае 70—80%.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

## Аб падрыхтоўцы да святкавання Дня беларускага пісьменства

**А.С. Крывёнак,**
*дзяржаўны інспектар на энергетычнаму нагляду.*

Усё менш дзён застаецца да 2 верасня. УП ЖКГ Глыбоцкага раёна, Аддзел культуры Глыбоцкага РВК, Глыбоцкае РайПО і іншыя арганізацыі раёна актыўна рыхтуюцца да свята. Стварыць добры настрой дапамогуць розныя падсветкі будынкаў, фантанаў, паркаў і дзіцячых пляцовак. Але для таго, каб ніякія непрыемныя нечаканасці не азмрочылі настрой глыбачан і гасцей горада ў святочныя дні пры мантажы і эксплуатацыі электраўстановак неабходна выконваць элементарныя правілы электрабяспекі:

1. Перад падключэннем прад'явіць электраўстаноўкі да агляду інспектару Энерганагляду.

2. Правесці пазачарговы агляд тэхнічнага стану электраабсталявання, якое выкарыстоўваецца пры гэтым, звярнуць увагу на:

- наяўнасць і працаздольнасць апаратаў абароны;
- абарону адкрытых токаводных частак ад выпадковых дакрананняў;
- стан ізаляцыі сілкавальных кабеляў, падаўжальнікаў;
- вышыню падвешвання правадоў і кабеляў;
- правядзенне неабходных электрафізічных вымярэнняў і выпрабаванняў.

Паклапаціцеся пра электрабяспеку, і свята пройдзе для Вас весела і бестурботна.

## Віншаванкі

*Алёна і Саша Бартко!*

Вы год назад судьбу в одну связать решили,
И прожили его вы счастливо, без бед.
Как в старину на свадьбе говорили,
Сегодня скажем вновь: «Любовь вам и совет!»
Вас ждёт по-прежнему широкая дорога,
Такой простор, что сердцем не обнять,
И год спустя кричать мы будем «Горько!»,
Чтоб вашей жизни горечи не знать.
Не бойтесь, не стесняйтесь – уступайте
Во всём друг другу, даже в мелочах,
И никогда, друзья, не забывайте,
Что счастье ваше в ваших же руках!

*Родные.*

## На 10% павялічаныя тарыфы на цеплавую энергію для спажыўцоў, якія аплачваюць яе на ўзроўні тарыфаў для насельніцтва

На 10% павялічаныя тарыфы на цеплавую энергію для спажыўцоў, якія аплачваюць яе на ўзроўні тарыфаў для насельніцтва. Такое рашэнне ўтрымліваецца ў пастанове Міністэрства эканомікі № 66 ад 31 ліпеня 2012 года.

Згодна з дакументам, тарыф павялічваецца з 145.326 да 159.859 рублёў за 1 Гкал.

Нагадаем, што папярэдняе павышэнне тарыфу для гэтай катэгорыі спажыўцоў было з 11 мая таксама на 10%.

*М. Носава, БелаПАН.*

# Глыбоцкія скарбы

## (Паводле гістарычных публікацый А.Івашчонка "Мястэчка Глыбокае")

■ Людміла Ардынская

Дзень пісьменства ў Глыбокім вызначаны лёсам.
Ёсць расповед пра манахаў Кармелітаў Босых.
Прыйдзе свята ў родны горад у маляўнічых фарбах.
Прыпыніся, мой сучаснік, тут былі іх скарбы.
Апроч золата і срэбра ззялі дыяментам
Кнігі, веды – так замовіў Корсак тэстамэнтам.
У кляштары пісалі кнігі пры мясцовым храме,
Вось імёны старадаўніх пісьменнікаў знаных:
Евасевіч, Мельчарковіч, Бронец і Яцына,
А Тышкевіч і Гарцэвіч – адны з першых слынных.
У забыцці вякоў знікалі імёны тых зорак,
Ды знайшоў, адкрыў, на шчасце, іх адзін гісторык.
Жыццё й смерць – аб гэтым кнігі як адметнасць року
У мностве рэлігійных плыняў эпохі барока.
Эпідэміі і войны, разбой, рабаванне –
Людзі ў роспачы шукалі ў неба ратавання.
Пахавальныя казанні, містыка, трывога,
Кнігі людзям адкрывалі шлях наўпрост да Бога.
Так манахі закладалі надзейны падмурак
Для ўзвышэння, станаўлення ўсёй літаратуры..
Заснавалі бібліятэку, залы (габінэты),
Кнігазбор быў багацейшы за ўніверсітэты.
Пільна дбалі пра навуку, пісалі трактаты,
Бо на талент творцаў слова кляштар быў багаты.
Ды пайшлі на злом падзеі, кляштар зачынілі,
Большасць рэчаў зрабавалі, частка ёсць у Вільні.
Кнігі гэтак жа знішчалі падчас тых падзеяў,
Нам адзінкі засталіся, большасць у Расеі.
Пахаваны таямніцы пад пылам стагоддзяў
У кляштарных падзямеллях – аб тым чуткі ходзяць.
Згублена, на жаль, нямала скарбаў тых адметных,
Штодня ходзім крок за крокам месцам запаветным.
Трэба ўспомніць, як збяруцца ў Дзень пісьменства госці,
Што ляжаць у падзямеллях пісьменнікаў косці.
Тут прыпынак іх апошні, асветнікаў знаных.
Жыццё кнігам прысвячалі, тут і пахаваны.
У звонах – водгалас стагоддзяў, прыцягвае горад
Велічнасцю святых храмаў, багаццем гісторыі.
У дзень святочны будзе горад у маляўнічых фарбах.
Прыхінемся ж сэрцам шчырым да Глыбоцкіх скарбаў!



На родных прасторах.
Вясна 2011г.
в. Радзюкі.
„Вольнаму Глыбокаму" – газеце
майго роднага горада.
З павагай Л. Ардынская

### "... Нам засталася спадчына."

"Мы не заўсёды цэнім тое, што маем. Жывучы ў пэўным населеным пункце, не ведаем як след сваёй гісторыі, не заўважаем той дастапомнасці, якая б магла быць прыцягальнай". Гэта радкі з гнігі галоўнага рэдактара газеты "Звязда", пісьменніка Алеся Карлюкевіча "Радзімазнаўства": Мясціны. Асобы".

Глыбокае – таксама адзін з куткоў Радзімы, "які варты таго, каб стаць месцам паломніцтва ўсіх, хто яшчэ верыць у вырашальную сілу культуры".

Газета "Вольнае Глыбокае" адкрывае для чытачоў старонку за старонкай гісторыі не толькі горада Глыбокае, але і іншых мясцін нашага паўночна-заходняга краю, вышуквае і знаходзіць тое, што складае нашу культурную спадчыну.

Крыху сумна ад таго, што пра многае прыйшлося даведацца ўжо ў сталым узросце. Дзякуй маім настаўнікам: яны давалі веды, прывівалі эстэтычны густ, выхоўвалі пачуццё патрыятызму. Але краязнаўству ўвагі належнай, на жаль, не надавалася. Хаця гэтаму і здзіўляцца не трэба: настаўнікі былі прыезджыя, партыйныя і савецкія органы складаліся з такіх жа людзей. Як яны маглі ведаць назвы і колькасць тых рачулак, азёр, гісторыю ўцалелых пасля вайны будынкаў? Запомніўся эпізод, калі на ўроку адна паважаная настаўніца назвала рэчку, што злучае Кагальнае і Вялікае азёры, Сапліўкай. У рачулку сцякалі адыходы вытворчасці кансервавага завода, яны затрымліваліся за расліннасць ля берагоў, стваралася вось такое непрыемнае відовішча. Наконт царквы і касцёла, якія цяпер з'яўляюцца візітоўкай Глыбокага, ніякай размовы не магло і быць, з нас выхоўвалі атэістаў.

Але дзесьці ў падсвядомасці жыла цікавасць да гісторыі роднага горада, яго наваколля. З дзяцінства пачынаецца малая радзіма, адзіны і незабыўны ў свеце кут.

Басаногая дзятва ўсюды дабіралася. Барок уздоўж і поперак абышлі ў розныя поры года за пралескамі ды чаромхай, суніцамі, грыбамі ды арэхамі. Ідучы дадому па беразе возера, што ў Беразвеччы, пілі ваду з крынічкі, што бруілася на беразе, заўсёды чысцілі яе. Ці захавалася яна, тая крынічка дзяцінства?

На Копцеўцы вельмі цікавіла нас вежа і Іллінская капліца (гэта я цяпер ведаю яе назву). Мы яшчэ тады марылі, каб яе аднавілі. Дзіцячай фантазіі не было межаў: чамусьці ўзгадваўся "Вій" Гогаля і дзяк, які адпяваў памерлую панначку. А вёсачка Міхайлаўка, якую паглынула Глыбокае, нагадвала пейзажы з "Вечароў на хутары бліз Дзіканькі".

Памятаю апошняе пахаванне і яго рытуал на габрэйскіх могілках. Давялося чуць у шасцідзясятых гадах і габрэйскую мову. Па вуліцы Маскоўскай каля аптэкі ішлі дзве габрэйкі і ажыўлена размаўлялі.

Чула ад сталых людзей, што на габрэйскіх могілках раслі вялікія сосны, немцы спілавалі іх і вывезлі ў нямеччыну.

Шмат чаго занатавалася ў дзіцячай памяці пра Глыбокае, усяго не апішаш. Многае распавядала маці маёй сяброўкі дзяцінства Клары Юргель. Месца, дзе стаіць бацькоўская хата па вуліцы Савецкай (амаль насупраць яе была разбураная капліца), гэта сталая жанчына называла "мураўёўкай". Чаму? Можа ёсць якая сувязь з імем таго расейскага генерала Мураўёва-вешальніка, які спыняўся ў кармеліцкім кляштары?

Белых плямаў у гісторыі Глыбокага шмат. У мінулым годзе выпадкова на Копцеўцы, наведваючы магілы родных, натрапіла на дзве гранітныя магільныя пліты. Муж і жонка Сабалеўскія, глыбоцкія настаўнікі, пахаваныя пад імі. Яны не былі маімі настаўнікамі, але я добра памятаю спадара Сабалеўскага, вельмі інтэлігентнага чалавека, які і са старымі і малымі вітаўся, крыху прыўздымаючы галаўны ўбор і схіляючы галаву. Цяпер такога не ўбачыш. Ён быў гісторыкам, і ў раённай газеце друкаваліся яго матэрыялы аб гісторыі горада Глыбокае. Мабыць, у музеі ёсць яго праца. Дом, дзе жылі Сабалеўскія, знаходзіцца па Савецкай вуліцы непадалёк ад прыпынку "Вольная". У Глыбокім бываю вельмі-вельмі рэдка, калі праязджала каля іх дома, заўважыла, што ёсць там нейкі памятны знак або помнік.

У гэтыя дні, напярэдадні святкавання 130-годдзя народнага песняра Янкі Купалы, які найбольш глыбока спасціг гістарычны шлях свайго народа, хочацца цытаваць радкі з яго вершаў.

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына.
***
Завецца спадчына мая
Усяго – старонкай роднаю.

Каму засталася і застанецца наша спадчына? Ці будуць яе берагчы і ахоўваць наступныя пакаленні? Нашы гістарычныя помнікі, культурнае наследдзе, мову? Хочацца, каб прагноз быў аптымістычным.

"Не зрачомся
Ні продкаў, ні песень, ні мовы!"

– сцвярджае пастаўчанін Ігар Пракаповіч, настаўнік, краязнаўца, паэтычны зборнік якога "Снежны вэлюм шыпшыны" пабачыў свет у 2011 годзе. І ўсё ж хочацца ўзгадаць цудоўныя вершы Марыны Букі, глыбачанкі, пачынаючай паэткі, нядаўна надрукаваныя ў "Вольным Глыбокім". Чытаючы яе вершы, якія гучаць вельмі пранікнёна і кранаюць сэрца, верыцца, што ў нас надзейныя спадкаемцы. Што не здрадзяць яны таму "месцу пад небам", што завецца Бацькаўшчынай, сваёй мове, якая "светам напаўняе сэрца", да якой хочацца "дакрануцца, абняць, прыхінуцца", якая "цвіце цуднай кветкай" у сэрцы кожнага беларуса. Што "не будзе ворага ў палосцы, якую дзед шчодра засяваў жытам".

Напрыканцы свайго допісу зноў звяртаюся да Купалы, якога яшчэ называюць Прарокам:

І будзе ўнукаў панаванне,
Там, дзе сягоння плача дзед.

Дык пануйце ж, унукі! Вы сёння зямлі сваёй гаспадары. Ад Вас залежыць будучае краіны, але яго няма без мінулага. Будзьце ахоўнікамі спадчыны прадзедаў, каб было што перадаць наступным пакаленням і не ў тым выглядзе, якое атрымалі мы.

### Янка Купала



Я Купалавы вершы чытаю,
Ужо вячэрняй зары водбліск згас.
Нібы папараць-кветку шукаю,
Што надзеяю цепліцца ў нас.
Ускалыхнулася сэрца дрыготка:
Гэтак трэба Старонку любіць,
Каб і тын той амшалы, што покатам,
Дуб апалены ў думках насіць.
Душу цешаць мне явар з калінай,
А з "Малітваю" класціся спаць.
Марыць з "песняй вясны лебядзінай",
Пад яго "Вечарынку" скакаць.
З дзірвану "ён ірваўся, стараўся
Узнімаць пласты, скібіну слова".
І так проста: Купала ён зваўся,
Жыў паэт, каб жыла наша мова.
Да Вязынкі народа сцяжынка
Праз Купалава сэрца ляжыць.
Бессмяротны пясняр неўміручай "Паўлінкі"
Абвясціў на ўвесь свет: "Беларус будзе жыць!"

# Другі год запар Артур Сабыніч і Максім Шымко становяцца чэмпіёнамі Глыбоцкага раёна па пляжнаму валейболу

■ Яўген Самсонаў

**9 жніўня адбыліся завяршальныя сустрэчы чэмпіянату Глыбоцкага раёна па пляжнаму валейболу.**

Пад кіраўніцтвам выдатнага настаўніка Вячаслава Сабыніча, адметнага спартоўца-валейбаліста, другі год запар чэмпіёнамі Глыбоцкага раёна па пляжнаму валейболу становяцца Артур Сабыніч і Максім Шымко.

Маючы ў фінале адну паразу ад Зміцера Закрэўскага і Васіля Міхалевіча, толькі перамога магла іх вывесці ў чэмпіёны. Артур і Максім гэта зрабілі. Літаральна на апошніх хвілінах апошняй гульні супраць каманды СДЮШАР-1, Іллі Лютынскага і Віктара Януковіча, яны вырвалі перамогу, пазбавіўшы апошніх надзеі трапіць у лік прызёраў.

Вынікам гэтай сустрэчы стала і тое, што дуэт Віталя Шантара і Яўгена Вайцяховіча, якія набралі ў фінальных сустрэчах 8 ачкоў, але па выніку асабістай сустрэчы саступілі пераможцу, атрымаў толькі срэбраныя медалі, статуэтку і адпаведны Дыплом.



У апошняй фінальнай сустрэчы вырашаўся лёс бронзавых узнагарод. Уладзімір Сяргеенкаў і Кірыл Завадскі выйгралі ў Зміцера Закрэўскага і Васіля Міхалевіча і атрымалі бронзавыя ўзнагароды.

Арганізатар і галоўны суддзя спаборніцтваў Яўген Палячонак. Сакратар – Алена Вішнякова.

Турнір адбыўся дзякуючы фундатарам – ААТ "БОХАНАВТО", ІП Сяменкіну і ІП Кухарэўскаму. За іх грошы былі набыты ўзнагароды пераможцу і прызёрам турніру.

